ЛіМ

—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
29
СТУДЗЕНЯ
1993 г.
№ 5 (3675)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ
3 рублі





Студзень. Выпаў снег...

Фота Аляксея МАЦЮША

ЛАЎРЭАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



# Пераказы з Роберта Бёрнса

Чытаю і перачытваю Бёрнса. Гэты шатландскі араты і сейбіт — паэт і прарок на мінулы, цяперашні і наступныя вякі. Як усё ўстойліва і трывала на Зямлі! Калі не верыце, спытайце ў Бёрнса.

Сяргей ГРАХОЎСКІ.

## Надпіс на папяровых грашах

Я праклінаў шматок паперы,
Бо ён суровы быў без меры,
Ён разлучыў мяне з каханкай,
З шынком, сябрамі, з грогу шклянкай.
Ты кідаеш сумленны люд
У голад, у жабрацтва, бруд.

Я бачыў, як шчаслівы злодзей
Рабуе бедных пры народзе.
Ён мой спрадвеку люты вораг,
Яго я струшчыў бы на порах,
Але яму — ўсе насцеж дзверы,
Бо Урад яму даў шмат паперы.

Каб гэты перажыць падман,
Хоць ты ўцякай за акіян.

## Надпіс на алтары незалежнасці

Хто незалежны, вольны, горды,
Сумленны і рашуча цвёрды,
Каго натхняе барацьба
За волю і за лёс раба.
Хто ставіць ката на калені
Па волі ўласнага сумлення,
А ў сэрцы — неастылы жар,
Таму адкрыюцца вароты у алтар.

## Адказ вернападданым

Вы верныя трону, нібыта авечкі,
Балюеце, ставіце Іраду свечкі,
Вас хутка нянавісць народа дагоніць,
І хто вас ад кары тады абароніць!

## Помнік, пастаўлены Бёрнсам на магіле Роберта Фергюсона

Ні урны няма, ні ўрачыстага слова,
Лісты да магілы засыпалі след,
І толькі нячэсаны камень суровы
Гаворыць: Шатландыя, тут — твой паэт.

## Надпіс на магіле школьнага педанта

«Узяць у пекла,— быў загад,—
Таго, хто так вучыў дзяцей,
І там, бясспрэчна, з чарцянят
Ён навыхоўвае чарцей.»

## Джонсану

Дзялкі мацёрае пароды
Клянуць свабоду і да гэтых дзён.
Калі ж стаў геній ворагам свабоды,
Самазабойца ён.

## Перакладчыку Марцыяла

О ты, каго паэзія прагнала,
Хто ў нашай прозе двух радкоў не склаў,
Ты чуеш крык паэта Марцыяла:
«Ратуйце! Гвалт! Мяне ён пераклаў!»

## Радкі пра вайну і каханне

Прыкрыты лаўрамі разбой,
З крывёй, з паходнаю трубой
Не варты ані звання.
Я кроў гатоў аддаць сваю,
За жыццятворчасць, што пяю,
І што завуць каханнем.

Я слаўлю мір і моц яго,
І радасць, і дастатак,
Стварыць прыемней аднаго,
Чымся забіць дзесятак.

## Аб кепскіх дарогах

Я ехаў зноў уплаў і ўброд
І ўсё маліўся Богу,
Чаму ж не любіць ваш народ
Рамантаваць дарогу!

Хай з Біблії адзін радок
Запомняць грэшныя народы,
Каб іх гультайскі гарадок
У пекле не гарэў заўсёды.

## Да партрэта Роберта Фергюсона, шатландскага паэта

Пракляцце тым, што, як звяры і чэрці,
Далі паэту з голаду памерці.
Старэйшы брат мой па служэнню музам,
Ты ледзьве дыхаў пад страшэнным грузам.
Я ўспамінаю твой трагічны лёс
І горка плачу, хоць не маю слёз.

Чаму пясняр і ў змроку забыцця
Так адчувае хараство жыцця!

## Дзяўчыне маленькага росту

Таму і меншы мой алмаз
За слуп гранітны на магіле,
Каб паглядзеўшы, кожны раз
Яго у сто разоў цанілі.

## Люстэрка

Ты называў мяне савой,
І думаў сам, што нешта значыў,
Бо у саве ты вобраз свой,
Як у люстэрку бачыў.

## Да партрэта...

Не, вочы у яго не хлусяць
І пазіраюць так як след,
Але яны прызнацца мусяць,
Што гаспадар іх прайдзісвет.

## Кніжны чарвяк

Хай кніжны чарвячок — жыхар разное шафы,
Том з вершамі праточыць навылёт,
Ды пашкадуе густ старога графа
І не псуе яго любімы пераплёт.

ЯКІМ БЫЦЬ ГІМНУ

# ПАСТАВІМ КРОПКУ?

Што для сумлення краіны — дзікунства, то для сатанінскіх сіл — свята.

Гэтыя словы апошнім часам успамінаюцца ўсё часцей, калі бачыш, што адбываецца на нашай угноенай радыяцыяй ды нітратамі, шчодра заімпартаванай усялякімі алкаголямі (быццам сваіх мала), абманкуртаванай зямлі.

Пазбаўленаму еднасці, знясіленаму, несвядомаму народу ўводзіцца ў вушы неабходнасць двухмоўя ды нейкіх «саюзаў», «адзінстваў» і «сабораў». Ствараюцца суполкі, таварыствы, рухі — і ў кожнага свая праграма, маніфест. Колькі думак, меркаванняў і ўсё... пустое, нікчэмнае, бо пазбаўлена асноўнага — нацыянальнай беларускай ідэі. А самае цікавае тое, што падкладка ўсяго — барацьба з духоўнасцю.

Асабліва яскрава праяўляецца гэта ў спрэчках і валтузні вакол будучага гімна. Калі чытаеш у прэсе перыядычна ўзнікаючыя выказванні пад рубрыкай «Якім быць гімну?», то часам хочацца і смяяцца і плакаць. Што толькі не прапануюць! Асабліва шчыруюць некаторыя рускамоўныя ды свае ўласныя нацнігілісты. Здаецца, ну якая вам розніца? Няма ж у вас ні дома, ні вуліцы, ні дрэва, ні рэчкі сваёй. І не будзе свята сатанінскім сілам, калі праб'ецца наверх і пацягнецца да сонца сапраўднае, спрадвечнае, жывое. Вось і вытыркнецца то тут, то там якая-небудзь «галоўка», ды завішчыць на ўсю рэспубліку: не хачу такога гімна, хачу нейкага іншага! І слухаем, мазахісцкі падтакваем ды ўгаворваем. А ці варта?

Нехта істэрычна патрабуе «не допустить, чтобы гимн был превращен в молитву», другі сцвярджае, што «не следует торопиться», трэці — што «чем плох старый?» і г. д.

Але і ў гэтым хоры вызначыліся закасцянелым дагматызмам выказванні членаў гомельскага клуба «Единство и справедливость». Клуб лічыць, што тэксты варыянтаў гімнаў носяць «церковный характер», а трэба адлюстроўваць «труд, как источник жизни»; што «в гимне неуместны воинственность и боевые кличи», што эмблема «Пагоня» не «вызывает энтузиазма» і г. д.

Асаблівае непрыняцце выклікае ў іх, ды і ў іншых «інтэрнацыяналістаў» першы варыянт — «Магутны Божа». Вядома, духоўнага і баяцца. Усе яны, аказваецца, за стары гімн, ну, няхай сабе і пры «некотором уточнении».

Давайце, урэшце, пакінем спрэчкі. Лепшага варыянту гімна, як «Магутны Божа», нам не знайсці. Гэта сапраўды гімн — велічны, духоўны. Здаецца, сам Бог ахвяруе яго нам. Не адхілім жа гэты дар! Калі ўжо непрыхільнікі духоўнага выявілі самы небяспечны для сябе варыянт — то ён і павінен стаць гімнам рэспублікі. Такая думка многіх беларусаў, з якімі даводзілася размаўляць. Нягледзячы на вялікую павагу да «Пагоні» М. Багдановіча і гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» М. Краўцова.

Пачнём жа мудрыць — толькі насмяшым Еўропу. Тым больш, што камусьці ўпарта хочацца ператварыць усё ў фарс.

Колькасць варыянтаў расце, як і тых, хто патрабуе іх разгляду.Назіраецца пошук нейкай згоды ў выглядзе паланеза Агінскага. Слоў няма, добрая, высокая мелодыя, напісаная дваранінам беларускага роду, сынам нашай зямлі. Але баюся, што да мелодыі штучна навяжуць які «самапальны» тэкст.

...На плошчы Незалежнасці нейкі чалавек увапхнуў у руку аркушык паперы. Я прачытаў: «Гімн Беларусі». Далей вочы выхапілі словы пра «справы вялікія», што «будуць нам асвятляць, нібы сонейка, лёс», і «век змагайся за мір, век жыві і працуй!» і г. д.

Яшчэ адзін нованароджаны? Навошта, людцы? Давайце паставім кропку.

Юры СТАНКЕВІЧ,
літаратар.

# КАБ ЗАВЯРШЫЦЬ ТРЫЯДУ...

На восень мінулага года беларусам абяцалі новы Дзяржаўны гімн, які адпавядаў бы новаму статусу рэспублікі. Быў абвешчаны конкурс, і многіх кампазітараў захапіла ідэя «аднойчы праснуцца славутым». Аднак у выніку шырокага, сапраўды грамадскага абмеркавання, «наватворы» былі адхілены і найбольш прымальнымі былі названы гістарычныя гімны — найперш «Магутны Божа», потым «Пагоня» і Дзяржаўны гімн БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Потым да гэтай трыяды далучыўся паланез Агінскага. І не проста далучыўся, а стаў сур'ёзным канкурэнтам гімну «Магутны Божа». Кампетэнтнай камісіі толькі і заставалася, што вызначыць, які з гэтых двух варыянтаў лепшы — паланез альбо «Магутны Божа». У першым выпадку паэтам давялося б парупіцца аб тэксце, у другім — кампазітарам аб адпаведнай аранжыроўцы мелодыі.

Але чамусьці замест гэтага камісія зноў пачала абмяркоўваць усё новыя і новыя варыянты, зноў звярнулася да твораў, адхіленых на папярэдніх турах. У выніку гэтага музычнага «даўгабуду» мільёны грамадзян Беларусі не пачулі гімна сваёй дзяржавы ні ў верасні, ні ў кастрычніку, ні ў лістападзе, ні ў Новы год. Колькі памятаю, пры бальшавіках у першыя хвіліны Новага года на экране тэлевізара з'яўляўся Дзяржаўны сцяг і гучаў Дзяржаўны гімн — гэта было прыгожа і ўрачыста. Чаму ад гэтай традыцыі адмовіліся ў незалежнай Беларусі?..

Мабыць, калі пагаварыць з членамі камісіі, якая павінна была вылучыць лепшы варыянт гімна з прапанаваных на конкурс, дык яны вельмі прафесійна растлумачаць, што гэта справа сур'ёзная, што трэба ўзважыць усе «за» і «супраць», што нельга спяшацца, і назавуць яшчэ тузін прычын, чаму мы ўсё яшчэ не маем гімна, вартага «Пагоні» і бел-чырвона - белага сцяга.

Але мне здаецца, што прычына тут іншая. У свой час наш «вандэйскі» парламент пасля правалу неабальшавіцкага путчу са страху і разгубленасці абвясціў аб незалежнасці Беларусі і зацвердзіў у якасці дзяржаўных сімвалаў «Пагоню» і бел-чырвона - белы сцяг. Страх і разгубленасць мінулі, а герб і сцяг засталіся. Страх і разгубленасць змяніліся злосцю і прыкрасцю — вось чаму «таварышы» мараць аб рэферэндуме па вяртанні БССРаўскай сімволікі, а ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета РБ дэпутаты, не саромеючыся тэлевізійных камер, адкрыта абражаюць Дзяржаўны герб і сцяг Рэспублікі Беларусь. А зараз у іх павінны адняць і любімую песню: «Мы, беларусы, з братняю Руссю... Нас аб'яднала Леніна імя... Горда ж узвіся... сцяг Камунізма...» Зразумела ж, будуць супраціўляцца.

Старшыня Прэзідыума ВС Станіслаў Шушкевіч, пэўна ж, не хоча абвастраць сітуацыю. Бо чым, як ні ўступкай нядобразычліўцам беларушчыны, трэба тлумачыць тое, што, выступаючы па тэлебачанні з навагоднімі віншаваннямі, спікер парламента не парупіўся, каб у кадры былі сімвалы беларускай дзяржавы: ні герба на сцяне, ні нават невялікага сцяжка на стале.

Хутчэй за ўсё, гэты склад Вярхоўнага Савета РБ так і пойдзе ў адстаўку пад гукі гімна БССР. Пры гэтай уладзе трыяда сімвалаў дзяржаўнасці (герб — сцяг — гімн) наўрад ці будзе завершана. Каб наша дзяржава хутчэй займела новы гімн, неабходна палітычнае рашэнне праблемы.

П. ВАСІЛЕЎСКІ.

**P. S. Калі гэтыя нататкі былі падрыхтаваны да друку, у рэдакцыю прыйшоў ліст з Міністэрства культуры РБ за подпісам музычнага рэдактара міністэрства Э. Алейнікавай. Змест ліста такі:**

**Конкурс будзе працягнуты да 1 сакавіка 1993 года, усе жадаючыя прыняць удзел у конкурсе хай дасылаюць свае прапановы на адрас Міністэрства культуры (220010, Мінск, вул. Савецкая, 9). У цэлым журы схіляецца да таго, каб гімнам Рэспублікі Беларусь стала мелодыя канта «Нова радасць стала» (гэта адзін з нумароў «Полацкага сшытка»), да якой паэты павінны напісаць тэкст.**

**«Даўгабуд» працягваецца.**

**«БЕЛАРУСЬ ІДЭАЛЬНАЯ»**

# ДЗВЕ БЯСКОНЦАСЦІ СУЗІРАННЯ

## Зноў аб ролі асобы ў гісторыі

**Стах ДЗЕДЗІЧ**

НАПАЧАТКУ МНЕ ХАЦЕЛАСЯ б вызначыць, што я разумею, калі кажу «нацыяналіст».

Нацыяналіст—чалавек, які адчувае сваю прыналежнасць да тае ці іншае нацыі, таго ці іншага народа. Гэта слова, натуральна, зусім не ёсць абраза. Мы зараз не будзем спрачацца, адпавядае ці не нашае вызначэнне патрабаванням, якім мусіць адпавядаць любое вызначэнне: самадастатковасці, лагічнасці, адназначнасці і г. д. Для нас гэтае вызначэнне з'яўляецца падставай для нашых наступных высноў.

Так, нацыяналіст разумее сваю прыналежнасць да аднае нацыі—г.зн. да асобнай групы людзей. Калі сцвярджаецца прыналежнасць любога аб'екта ці з'явы да тае ці іншае групы, мы павінны вылучаць прадстаўніка групы з найбольш тыповымі ўласцівасцямі ці прыкметамі і праводзіць параўнанне аб'екта менавіта з гэтымі тыповымі прадстаўнікамі. Таму беларускі, нямецкі, кенійскі нацыяналіст мусіць параўноўваць сябе з тыповым беларусам, немцам, кенійцам. І калі гэтае параўнанне дае станоўчы вынік, мы пачынаем атаясамляць сябе з беларусам, немцам, кенійцам. Натуральна, паколькі немагчыма стварыць абсалютны і ўсеагульна прыняты партрэт тыповага беларуса, дык кожны з нацыяналістаў на свой капыл разумее гэтыя тыповыя рысы і адрозныя якасці. І менавіта таму ўсе цяперашнія «нацыяналісты» на Беларусі атрымліваюцца такія розныя па сваіх адценнях—ад незалежнікаў да нацыянал-сацыялістаў.

Мае разважанні тычацца людзей, якія спрабуюць сябе атаясаміць у гэтым свеце, вылучыцца з шэрае масы насельніцтва. Безумоўна, для падобнага атаясамлення патрэбен пэўны ўзровень развіцця асобы. Размова не ідзе аб адукацыі ў чыстым выглядзе—хаця адукацыя, асабліва гуманітарная, спрыяе вызначэнню,—але аб пачатках абстрактнага мыслення. Людзей, якія не задумваюцца аб нацыянальнай прыналежнасці, нельга лічыць прадстаўнікамі якойсьці нацыі. Беларусам ці французам не нараджаюцца—імі трэба зрабіцца. І якім чынам — усходнім ці заходнім, альбо нават сваім уласным—ісці да беларускасці—не прынцыпова. Кожны шлях можа весці ў патрэбным напрамку, і дыскусія на старонках «ЛіМа», распачатая калісь (у 1991 годзе.—**Рэд.**) шаноўным В. Акудовічам — яскравае сведчанне гэтаму.

Увогуле цікавае пытанне: дзеля чаго ўзнікаюць падобныя дыскусіі? Тое, што яе ўдзельнікі застануцца пры сваіх поглядах,—гэта факт неаспрэчны, бо весці спрэчку ўласціва адмыслоўцам з усталяваным светапоглядам, а ён вельмі цяжка выпрацоўваецца і яшчэ цяжэй змяняецца. Трэба адзначыць, што гэтыя сцвярджэнні не тычацца неафітаў і тых, хто выказвае погляды якой-небудзь знешняй сілы—партыі, урада і г.д. Першых не тычыцца таму, што па сваім псіхалагічным становішчы новаадкрывальніка яны кідаюцца ў любую бойку як маладыя пеўні, а для другіх, наадварот, перамены ў светапоглядзе характэрны ў адпаведнасці з пануючымі ці выгоднымі ўмовамі. Так што карыснасць дыскусій, падобных да лімаўскай, бачыцца толькі ў адным: магчыма, некага з «безнацыянальнага» натоўпу пераканаюць аргументы таго ці іншага дыскутанта, і ён, гэты «нейкі», урэшце ўздымецца на ўзровень нацыянальнага ўсведамлення.

Калі пагадзіцца, што нацыянальнасць вызначаецца выключна атаясамленнем канкрэтнага сябе з нейкай абстрактнай ідэальнай групай, тады будучыня бачыцца не такой ужо дрэннай, як яна ёсць у цяперашні момант. Беларусы будуць існаваць, покуль хаця адзін чалавек будзе адчуваць сябе беларусам. А такія людзі заўжды знойдуцца. Беларусам можна зрабіцца нават завочна, з кніг і ўспамінаў—балазе, Максім Багдановіч сведчыць, што гэта рэальна. Натуральна, гэта зусім не значыць, што за выжыванне беларусаў не трэба змагацца, бо ўсё-такі нацыя слынна ў гісторыі чалавецтва сукупнасцю ўсіх сваіх учынкаў. І чым большая, калі можна так сказаць, «маса» нацыі, тым яна вялікшая (крый Божа, я не адэпт вучэння аб вялікіх і малых нацыях і кажу «вялікшая» не ў сэнсе якіх-небудзь пераваг).

Маса нацыі, у прынцыпе, вызначаецца не толькі колькасцю, але і якасцю прадстаўнікоў і чыннікаў. Інакш кажучы, часам адна асоба на шалях гісторыі варта больш, чым безліч ягоных суродзічаў да яго і пасля яго. Гэткім чынам, у вызначэнні масы народа існуе пэўная іерархія каэфіцыентаў уплыву кожнага чалавека. На жаль, найбольшую вагу ў гэтае іерархіі чамусь маюць палкаводцы (напрыклад, калі ўзяць старажытнасць, кожны адразу згадае Аляксандра Македонскага ці Атылу), культурныя дзеячы адсунуты на другі ці трэці план. Не выключана магчымасць, што падобная іерархія ў нашай свядомасці сталася вынікам пачварнай сістэмы вывучэння гісторыі, але падобна, што гэтая сістэма каштоўнасцяў пэўным чынам адбівае агульны менталітэт чалавецтва. (І ад гэтай крывамжэрнасці робіцца непамысна).

Класічным прыкладам народа, у якога натоўп грае першую скрыпку, пакідаючы ў цені сваіх асобных прадстаўнікоў, з'яўляецца габрэйства. У гісторыі гэтага народа не было тае падзеі, аб якой можна было б сцвярджаць: «Яна змяніла гісторыю чалавечай супольнасці». У ёй, гісторыі, не было тых тытанічных носьбітаў духу габрэйства, якія прымусілі б увесь свет пачуць іхні голас. Хутчэй наадварот, вялікія прадстаўнікі габрэяў рабіліся вялікімі **ПА-ЗА** межамі габрэйства. Як, напрыклад, Бенедыкт Спіноза, выгнаны са свайго кагалу, ці Эйнштэйн, чыё габрэйства адбілася хіба што выгнаннем з Нямеччыны. Нават Хрыстос у артадаксальным юдаізме разглядае ўсяго толькі як адзін са шматлікіх адступнікаў... Але адмаўляць уплыў габрэяў на гісторыю немагчыма, і гэты ўплыў ішоў і ідзе праз **прысутнасць,** разбаўленасць габрэяў сярод іншых народаў.

*

Для беларусаў, паводле іх тэмпераменту і стаўлення да жыцця, народ мог быць выключна маўклівым сведкам тых ці іншых падзей, і вызначальную ролю заўжды гралі асобы. Для сусветнай гісторыі Вітаўт—Скарына—Будны—Сапега вартыя куды больш, чым безліч безыменных беларусаў, што прайшлі побач з імі. З-за такога нашага характару большую ролю для нацыянальнага адраджэння можа граць асоба. У гэтым працэсе ёсць цікавая акалічнасць: у адраджэнскай сітуацыі значэнне асобы ўзрастае шматкроць, адпаведна таму як узрастае маса народа, і таму, напрыклад, не выключана магчымасць, што праз пэўны час творчасць Данелайціса будуць вывучаць не толькі ў Летуве, але і ўключаць у сусветныя анталогіі.

З-за значнасці асобы ў стварэнні «масы» беларусаў мы павінны ўсімі магчымымі сродкамі ствараць... гэтую самую асобу.

Аднак вернемся да самаўсведамлення. Толькі пасля асабістага вызначэння ты пачынаеш разумець, як мала значылі для цябе шматлікія лозунгі ды заклікі, лекцыі і кнігі. Вельмі часта апошнім штуршком для вызначэння будзе раптам абуджаная памяць продкаў і зямлі, нешта нематэрыяльнае, накшталт душы. І ўжо толькі **пасля** выбару знаходзяцца пераканаўчыя довады для абгрунтавання свае пазіцыі. Канешне, узровень усведамлення ў залежнасці ад здольнасцяў чалавека будзе розны. Большасць—і цяпер, і на працягу гісторыі—не падымалася вышэй узроўню «тутэйшых», калі нацыянальная прыналежнасць не адыгрывае абсалютна ніякай ролі ні ў штодзённым жыцці, ні на псіхалагічным узроўні.

Хацелася б адзначыць адну асаблівасць, якую актыўна прапагандуюць прыхільнікі «рускай абранасці». Нават на ўзроўні «тутэйшых» рускі адчувае сябе рускім, месіяй, чалавекам, які мае сваю звышзадачу, і велізарную ролю ў гэтым адыграла і грае цяпер праваслаў'е. Гэтая асаблівасць звязана з тым, што яно фарміравалася па сутнасці рэлігіяй мананацыянальнай, і ўжо таму не можа не прапагандаваць абранасць сваю і народа-носьбіта. Дарэчы, у цяперашні момант даваць ацэнку значэнню рэлігіі гэтаксама цяжка, як і раней, бо калі раней на ёй ляжала пячатка забароны, дык зараз яскравы адбітак моднасці. Гэтая моднасць прываблівае вялізную колькасць неафітаў, у палымянай адданасці няздольных да аб'ектыўнага аналізу. Гэтая самая моднасць і ўяўнае адчуванне сваёй асабістай значнасці спрыяюць таму, што руская царква ўсё болей ідзе ад духоўнасці да мірскога жыцця. Але праявы рускасці і выключнасці сустракаюцца не толькі ў неафітаў. Нават у Ігара Шафарэвіча ў кнізе «Есть ли будущее у России?» суседнічаюць выбітнае даследаванне «Социализм как явление мировой истории» і словы: «Всё человечество зашло сейчас в тупик, стало очевидным, что цивилизация, основанная на идеологии «прогресса», приводит к противоречиям, которые эта цивилизация не может разрешить. И кажется, что путь воскресения России тот же, на котором человечество может найти выход из тупика... Мы первыми пришли к точке, откуда видна единственность этого пути, от нас зависит вступить на него и показать его другим».

Паглядаючы на суседзяў і зважаючы на ролю нацыянальнай царквы ў фармаванні нацыі, можна толькі пашкадаваць, што пытанне стварэння нацыянальнай рэлігіі беларусаў можна разглядаць толькі ў plusqvamperfekt, і шукаць якія іншыя шляхі да адраджэння...

Да катэгорыі «тутэйшых» адносіцца таксама большая частка тэхнічнай інтэлігенцыі. Гэта выклікана зусім не разумовым узроўнем, але тым, што нацыянальнае вызначэнне, як правіла, не патрэбна для карпарацыйнага прызнання.

Другі ўзровень усведамлення—людзі, якія чотка вызначылі сваю нацыянальную прыналежнасць. Як правіла, гэтае вызначэнне грунтуецца на больш ці менш распрацаванай сістэме аргументаў, пачынаючы ад простай канстатацыі: «На гэтай зямлі жылі мае бацькі», і канчаючы складанымі філасофскімі канцэпцыямі.

Калі гаворка ішла пра стварэнне асобы, галоўным шляхам у гэтым бачылася самаўдасканаленне. Разуменне, што Беларусі патрэбны геніі, напэўна, не нарадзіць іх — гэта справа імавернасная, але паспрыяе развіццю талентаў, чыё выхаванне справа больш рэальная. Для такога развіцця мы маем добрую глебу: мы адначасна нацыя і маладая і старая. Мы развіццё пачалі разам з іншымі еўрапейскімі народамі, неўзабаве выраслі ў вялікую нацыю і потым нібыта спыніліся, замерлі на паўдарозе. Гэтая летаргія доўжылася, мусіць, тры стагоддзі. Натуральна, што цяпер колішнія нашыя заслугі, не падмацаваныя наступнымі дасягненнямі, выглядаюць архаічнымі і адсталымі, а нашыя вялікія постаці для нас выступаюць выключна ў якасці фону, поруч з вялікімі прадстаўнікамі іншых народаў.

Новыя носьбіты беларушчыны (увесь адраджэнскі рух пачатку нашага стагоддзя) яшчэ недалёка ад нас, яны амаль нашыя сучаснікі. І таму нам, у адрозненне ад іх, для ўсведамлення сябе беларусамі неабходна засвоіць значна меншы «культурны пласт». Кажучы мовай навукі, прадстаўнічая выбарка па нашай культуры ўключае куды меншую колькасць найменняў. Як ні парадаксальна, але ў нечым падобная сітуацыя ў Амерыцы. Толькі там не летаргія, там нараджэнне на новым месцы. Гэтае нараджэнне адбылося на сто год раней, у стомільённай супольнасці, таму і вынікі параўнаць немагчыма. Яшчэ адна паралель. Калі ты толькі ступіў на бераг Амерыкі, ты кітаец, пуэртарыканец,.. беларус. Але варта табе троху акліматызавацца, прызвычаіцца—і большасць робіцца амерыканцамі. Большасць, за выключэннем прадстаўнікоў сапраўдных нацый, з паглыбленым гістарычным і спадчынным светаадчуваннем — немцаў, французаў і г.д. Але ўсе яны разам робяць традыцыі, культуру, воблік сапраўднага амерыканца.

А на Беларусі варта каму-небудзь нейкім чынам атабарыцца на нашай зямлі, як ён лічыць, што мае права мяняць усё наўкола на свой капыл. Гэта тычыцца і вайскоўцаў, і спецыялістаў, і шмат каго іншага. Але ж яны ўвесь час забываюць, што ёсць беларусы. І мы, спрадвечныя насельнікі гэтай зямлі, покуль займаем ці не такое самае становішча, як індзейцы ў Амерыцы. Таму ў нас немагчыма роўналеглае існаванне дзвюх культур: культуры спрадвечнага насельніцтва («індзейскай») і культуры «касмапалітычнай» (сучаснай-прынесенай-«амерыканскай»).

Меншая прадстаўнічасць выбаркі спрыяе яшчэ адной прыкрай з'яве. Чыста псіхалагічна, калі чалавек бачыць на кніжнай паліцы тысячы фаліянтаў у цяжкіх скураных вокладках альбо на сценах галерэй і музеяў бясконцыя сціжмы партрэтаў продкаў, ён не імкнецца ахапіць усё—бо адчувае немагчымасць гэтага. І чытаць, паглынаць, усведамляць ён будзе, адчуваючы за прачытаным-прагледжаным гіганцкую колькасць **не прачытанага** і не прагледжанага. Мы ж часам ганарымся, што можам паказаць верш, які запачаткаваў нашае краснае пісьменства, ды ўсё нашае наступнае пісьменства можна змясціць на адной доўгай паліцы.

Гэтаксама ў адзін пакунак можна скласці і іншыя, цяперашнія нашы інтэлектуальныя здабыткі. Гэтая сціплая палічка міжволі спрыяе павярхоўнасці ўспрымання, падманвае ўяўнай лёгкасцю засваення такой невялікай спадчыны. На самай жа справе гэтыя масівы аднолькавыя, як аднолькавыя ў матэматыцы дзве бясконцасці. Зразумець гэта няпроста і менавіта з гэтае ўяўнае нескладанасці апошнім часам з'явілася безліч неафітаў беларушчыны, якія за знешнім энтузіязмам і адданасцю справе адраджэння аб'ектыўна надта падобныя да «тутэйшых». Для іх удасканаленне абмяжоўваецца тузінам падслуханых тэзісаў з гісторыі і культуры, памножанае на непазбытае пачуццё калектывізму. (Дарэчы, гэткая з'ява тыпова не толькі для беларушчыны, такія самыя неафіты ёсць у славяншчыне, рускасці, рэлігіі, так што эмацыйны дылетантызм, мабыць, ёсць неад'емнай якасцю чалавечай псіхікі).

На першы погляд у гэтых разважаннях ёсць супярэчнасць. Спачатку заклікаюць да самавылучэння і адасаблення на ўзроўні, даступным кожнай канкрэтнай асобе, а потым абвінавачваюць у дылетантызме і невуцтве. Але тут хутчэй не супярэчнасць, але **спрэчка.** Дылетантызм і невуцтва пачынаюцца там, дзе самавызначэнне вядзе да абсалютызацыі самога сябе і сваіх поглядаў. Яскравы прыклад падобных паводзінаў—колішняя гісторыя з непрыняццем на Беларусі і ў Віцебску творчасці Шагала. Падобныя прыклады катэгарычнага процістаўлення можна знайсці і ў літаратуры, і шмат дзе яшчэ.

Для нашай свядомасці, доўгі час гадаванай на прынцыпе статку, ідэя ўласнага шляху можа падацца нерэальнай і спачатку, мабыць, кашчуннай. Выдае, аднак, што толькі яна сапраўды здольна вывесці да чагосьці наперадзе.

ПЕРШАЕ ПРАЧЫТАННЕ

# НА ПЯТЫМ МЕСЯЦЫ ВАЙНЫ

## Аповесць Васіля БЫКАВА «Сцюжа»

«Гарадзілаў памёр на світанні — ціха, неўпрыкмет сканаў у сцюдзёным, прадзьмутым ветрам буданчыку. Азевіч, які сам задрамаў на сконе ночы, нават не заўважыў таго, хоць і адчуваў звечара, што пракурору ўжо не падняцца. Тры апошнія дні той не ўставаў на ногі, палаў у гарачцы, сіпата, дробненька дыхаў і — што асабліва ўразіла Азевіча — перастаў пазнаваць яго. Гэтую ноч звечара незразумела, дзікавата трызніў, вёрз немаведама што пра нейкага (ці нейкую) Кузю, тузаўся, скрыгатаў зубамі, увесь час сцягваючы з сябе шынелак, якім яны накрываліся разам. Азевіч стаміўся за ноч руліцца каля хворага, бясконца атуляць адзежынай яго гарачае цела»...

Так пачынаецца новая аповесць Васіля Быкава «Сцюжа», змешчаная ў першым нумары часопіса «Полымя» за сёлетні год. Пачынаецца, як ці не ўсе яго творы, спакваля, нетаропка, з прадчуваннем таго, што самае галоўнае будзе яшчэ наперадзе. Як і на самой вайне, калі часовы зацішак неабавязкова абяцаў у далейшым заспакаенне, а выпадак, здавалася б, звыклы, для той жа вайны будзённы, цягнуў за сабой шэраг наступных, і падобных на яго і непадобных, бо хто можа сказаць у час ліхалецця, што прынясе з сабой не тое што чарговы дзень, а і гадзіна, мінута.

Праўда, «новая аповесць» у дачыненні да «Сцюжы» можна сказаць з агаворкай. Новая ў тым сэнсе, што твор гэты раней не друкаваўся, чытачу невядомы. На самай жа справе задума ўзнікла даўно, прынамсі, аповесць пісалася ўжо ў 1969 годзе, а завяршалася зусім нядаўна, у 1991-ым, пра што сведчаць і гэтыя дзве даты, што стаяць у канцы: «1969, 1991 гг.». Прычыны сёння вядомыя. У «Сцюжы», хоць асноўнае дзеянне адбываецца ў час Вялікай Айчыннай вайны, паказаны і іншыя падзеі — трыццатых гадоў, калі набіраў абароты махавік сталінскага беззаконня, калі дзякуючы намаганням энкэвэдзістаў на Беларусі з'явіліся нацдэмы, тысячы людзей зніклі бясследна. Гэта ў 1969 годзе адлюстраваць у мастацкім творы было немагчыма: сама разгортвалася дзейнасць вернага ленінца Брэжнева, ад хрушчоўскай адлігі не засталося і следу.

У трыццатыя і вяртаецца даваенны сакратар райкома партыі, а перад гэтым інструктар райкома камсамола, а яшчэ раней — звычайны ездавы ў райвыканкоме Ягор Азевіч. Колішні пракурор раёна, камісар групы, пакінутай райкомам партыі на акупіраванай тэрыторыі, Гарадзілаў «ціха, неўпрыкмет сканаў у сцюдзёным, прадзьмутым ветрам буданчыку», а Азевіч вымушаны пакутліва разбірацца ў сабе сённяшнім і ўчарашнім, каб зразумець, хто ён на гэтай зямлі і дзеля чаго жыве.

Гэтая няпэўнасць узмацняецца яшчэ і ад усведамлення, што з усёй групы ў дваццаць два чалавекі ён застаўся па сутнасці адзін: «Як збіралі групу, тады ўсе здаваліся такія патрыёты, бальшавікі, свае, знаёмыя, без аніякіх сумненняў гатовыя на ўсё — на жыццё і на смерць дзеля перамогі. Але во як прыперла бяда ля Макрынскага балота, калі іх акружылі нямецкія жандары і яны нейкім цудам усё ж прарваліся — братоў Фесякоў не засталося і следу». Браты хоць проста вырашылі перачакаць ліхалецце ў зацішшы, як кажуць, не служыць ні вашым, ні нашым. Аднак жа знайшліся і тыя, хто здрадзіў. Некаторыя загінулі ў першых жа баях.

Васіль Быкаў, паказваючы Азевіча ў гэты момант адзіноцтва і няпэўнасці, як мага пільней прыглядаецца да яго душэўнага стану. Скупа, без эмоцый разбіраецца, чым жыве чалавек. Ды якія яшчэ могуць быць эмоцыі, калі Азевіч — як нацяты нерв. Ранейшая, хоць зыбкая, упэўненасць канчаткова знікла. Складанасць становішча, аднак, не толькі ў тым, што герой твора аддадзены па сутнасці на волю абставін. Бяда і ў іншым. Азевіч, якога і не назавеш палахліўцам, развучыўся дзейнічаць самастойна, яму абавязкова неабходна нейкая падказка і ўказка: «Але, мабыць, ужо не вайсковец і не партызан нават — здаецца, пакуль што з партызанкай не выйшла нічога. Мабыць, трэба дзесь пераседзець, перахавацца, звязацца з вышэйшым кіраўніцтвам, далажыць, як і што адбылося ў іх з такім драматычным зыходам. І хто вінаваты?»

Звязацца з кіраўніцтвам — гэта, канечне, з той самай, даваеннай партыйнай школы Азевіча, дзе кожны, якое б службовае становішча ні займаў, заўсёды памятаў — абавязкова знойдзецца начальнік, які стаіць вышэй за цябе, і ён куды лепей ведае, як і што рабіць. Ты — выканаўца, як выканаўцы і твае падначаленыя. І ў гэтым ланцугу ніколі не рваліся звенні, інакш бы адбылося б нешта неверагоднае, што выходзіла б «за правілы». Цяпер гэта і надарылася. «...куды ён кіруе? І куды кіраваць наогул?» — гэтыя і падобныя ім пытанні, што раз-пораз узнікаюць у героя і вынікаюць з той самай парушанасці звыклага для яго.

Азевіч — на раздарожжы. Аднак не на гэтым: ваяваць ці не ваяваць. «Пераседзець, перахавацца» — гэта на нейкі момант. Раздарожжа іншае: «Цяпер ён ужо баяўся паселішчаў і людзей, ведаў: ад іх трэба быць далей. Але і як быць без людзей?».

У Азевіча, значыцца, былі ўсе падставы «баяцца селішчаў і людзей». І не таму, што хапала ў наваколлі здрайцаў, гатовых данесці немцам. З-за лішняй даверлівасці асобныя таварышы з яго групы якраз і загінулі. Ды і сам Азевіч перад гэтым цудам ўратаваўся ад немінучай смерці. Гаспадар, у якога ён, пахаваўшы Гарадзілава, папрасіўся пераначаваць, ноччу паспяшаўся да немцаў. І ўсё ж не ў здрадніках справа. Вельмі ж ужо Азевіч і іншыя, што цвёрда праводзілі лінію партыі, насалілі людзям, найперш у гады калектывізацыі. Помсты найперш і баіцца, прытым не без падстаў, Азевіч.

Гэтая праблема ў нашай літаратуры дагэтуль, здаецца, не закранaлася. Папярэднікі В. Быкава ў творах аб мінулай вайне размяжоўвалі людзей, як правіла, на два лагеры: чыстыя, сумленныя і — здраднікі, прыстасаванцы. Як жа ў такім разе быць з Вайцяшонкам, з якім да вайны Азевіч разам працаваў і да якога цяпер кіруецца, шукаючы хоць нейкага, няхай і часовага прыстанішча? Ён колішняга сябра сустракае калі не з радасцю, дык па-чалавечы. І выпіць-закусіць дае, і паспавядацца дазваляе.

Больш таго, і сам шчыры, нават болей, чым Азевіч. Калі прыгадалі Вайцяшонкава знаходжанне ў сталінскім лагеры, як з-за пляча разануў: «Выпусцілі? А як выпусцілі? Спаскудзіўшы цела і душу, выпусцілі. Яны ж мяне ў сексоты падпісалі».

Тым не менш, Вайцяшонак не пайшоў насустрач Азевічу. «—Перахавацца? — перапытаў Яўген і ўслухаўся. У пакоі тупалі крокі, гэта часам хадзіў туды-сюды бацька. А ўвогуле скрозь было ціха.—Не, не магу. Даруй, але не магу». Пасля дадаў: «Хлеба, ну там харчоў— гэта калі ласка. Гэта цяпер у нас ёсць. Еш і з сабой дам. А перахаваць — прабач». На развітанне з вуснаў Вайцяшонка прагучала яшчэ, праўда, як бы апраўданне падобных паводзін: «Абы галаву зберагчы!»

Але не ў гэтым жаданні ацалець — адзіная прычына асцярожнасці Яўгена. В. Быкаў не спяшаецца даваць хуткі і нейкі пэўны адказ. Адказам на яго можа быць жыццё самога Азевіча — і даваеннае, і цяперашняе. А калі ні аднаго яго, дык тых, з кім хаўрусаваў і з кім дзейнічаў. Такую ўжо ношу ўзяў на свае плечы — жывы, значыцца, і за сябе і за іншых адказвай.

Адказваць жа трэба за многае. Не ў ізаляваным жа свеце дзейнічала іхняя падпольная група. Што ні рабілі, а водгалас далёка разносіўся. Каб жа пра баявыя справы, а то і пра непатрэбную падазронасць. Не маглі не ведаць у наваколлі і пра забойства старога: «Дзядзька быў з не дужа блізкае вёскі (блізка вёсак там не было наогул), адышоўся з дому, можа, кіламетраў з пяць, тое выклікала падазрэнне — ці не шукае ён іх заместа кабылы? Няпроста было зразумець, як яно было папраўдзе, але дзядзька набрыў на іхнюю стаянку, бачыў іх буданы і нават пазнаў некаторых з іхніх людзей, — як было адпушчаць такога?»

Не адпусцілі, а потым і... расстралялі. Не сказаць, каб пасля гэтага самасуду лёгка дыхалася, «штосьці сталася, абляглося на душу, хоць кожны і стараўся прыдушыць тое пачуццё, не даць яму дужа разрасціся».

Не-не ды і кідае позірк Азевіч назад, у гады свайго юнацтва, камсамольства. Хто ведае, як бы склаўся ягоны лёс. Працаваў бы, магчыма, на зямлі, пабраўся б з любай дзяўчынай. А так падвёз начальства і — пайшло-паехала: «Для Ягора Азевіча пачалося новае, спярша ажно страхавітае жыццё ў раёне. Пакуль што яно абмежавалася клопатам пра Белалобіка (каня. — **А. М.**), ні пра што іншае ён і не думаў».

Яшчэ больш круты паварот адбыўся, калі зблізіўся з актывісткай Палінай Пташкінай. Тая, хоць і маладая, аказалася жорсткай ва ўсім, што тычылася пытанняў класавай барацьбы. Гэта пад яе ўплывам Азевіч напісаў данос на свайго непасрэднага начальніка Зарубу. Быў заўважаны, паехаў на вучобу ў Мінск, каб стаць сакратарам камсамольскай ячэйкі на лесапільні. Сістэма лёгка брала ў сябе Ягора — жыццёва нявопытнага, але, як і большасць тагачасных юнакоў і дзяўчат, апантанага рэвалюцыйнай ідэяй. Не сказаць, каб ён не супраціўляўся, але супраць беззаконня, насілля нічога зрабіць не мог. І, прызнацца, не заўсёды мог адрозніць, дзе праўда, а дзе дэмагогія.

Уражваюць старонкі, дзе расказваецца, як Азевіч, тымчасовы сакратар камсамольскай ячэйкі, сутыкнуўся на лесапільні з «нацдэмам» Дарошкам, якога накіравалі туды на перавыхаванне. Менавіта Дарошка ў многім прымусіў яго па-новаму глянуць на свет і людзей, а часам і пазбаўляцца рэвалюцыйнага максімалізму. То былі ўрокі, якіх Азевічу так не хапала. Дарошка не баючыся рэзаў праўду-матку ў вочы. Калі Ягор загаварыў «пра складанасці класавай барацьбы, у якой, вядома ж, не мінуць ахвяр», Дарошка адказаў проста: «Ат, якая там барацьба! Проста дурнота наступае».

Той жа Дарошка па-свойму паставіўся і да вучобы Азевіча ў Мінску: «Чым такая навука, лепш абсалютнае невуцтва. У цёмных людзей адсутнасць ведаў замяняецца здаровым сэнсам». І растлумачыў, чым патрыёт ад нацыяналіста адрозніваецца: «А тым, што патрыёт любіць сваё, а нацыяналіст болей ненавідзіць чужое». Нарэшце, Дарошка пазнаёміў Ягора з паэмай «Новая зямля» Якуба Коласа.

Можа, ўратаваў Азевіч пасля гэтага Дарошку? Хацеў было папярэдзіць, што над ім навісла новая небяспека, калі галоўны энкэвэдзіст раёна Міла-ван запатрабаваў пра ўсё напісаць. Хацеў ды не асмеліўся: «Чужая воля правіла свой д'ябальскі баль на людскіх касцях, і што на тым балі залежала асабіста ад Ягора Азевіча? Дужа мала, калі не сказаць нічога. Ён жыў па чужым сумленні, па чужых звычаях, чужых законах. Жыццё і людзі распараджаліся ім, як хацелі. І як было ў тых умовах зрабіць што інакш? Або зусім не зрабіць нічога?.. Яго б за некалькі дзён сцерлі на парахню».

Страшнае, аднак, не толькі ў гэтым. Куды жудасней, што і сам Азевіч паступова звыкся з падобным існаваннем. Больш за тое, «быў дужа незадаволены сабой, асабліва як стаў партыйцам, бо не выпрацаваў ён у характары бальшавіцкай цвёрдасці, патрэбнай бязлітаснасці да тых, хто замінаў, не хацеў рабіць, як загадвалі». Сістэма фарміравала Азевіча, рабіла з іх маўклівых выканаўцаў. Аднак Азевіч зрэдчасу праціўіўся яе насіллю, іншыя і на тое не асмельваліся.

Прасвятленне настала, але — позна! Тыя колькі дзён, калі ён адзін блукаў ад вёскі да вёскі, шукаючы хоць якога часовага прыстанішча, калі трызніў, падабраны чулай вясковай жанчынай, сталі пераацэнкай яго мінулага. Азевіч выслабаняўся з путаў пакорлівасці. Азевіч нарэшце стаў самастойна думаць.

Нялёгка гэта давалася: але і не думаць ужо не мог. Не меў на тое права, бо ведаў: з усіх гэтых варункаў мусіць выйсці іншым чалавекам. Каб глядзець людзям у вочы. Тым самым людзям, якіх перад вайной крыўдзіў. Няхай і не наўмысна, а толькі выконваючы ўказанні, дырэктывы, тэзісы... І чым болей шукаў адказу на пытанні, што сыпаліся лавінай, тым цяжэй і самотней было на душы: «Дужа апрыклым было яму тое перабіранне жыцця, ягоныя пра жыццё думкі, радасці з якіх было так мала. Адны расчараванні і боль. А цяпер дык яшчэ і новы вялікі боль — вайна».

А далей — болей: «Што трэба змагацца з захопнікамі — у тым ён не адчуваў сумлеву. Калі яны захопяць, панішчаць, разапнуць на крыжы народ — не будзе нічога. Ні мінулага, ні сучаснага, ні будучыні. Бо яны — звяры. Значыць, змагацца за будучыню. Але ж, мусіць, і за мінулае?... Ці не пяройдзе тое агіднае мінулае і ў будучыню таксама? Мабыць, пяройдзе... Тое самае, што пераж ыта з такім болем і вялікаю крыўдай. Але ж гэта жахліва? Во становішча, каб яно згарэла. І выбару ніякага».

Жыццёвае кола Ягора Азевіча то прыцішвае свой бег, то прыспешвае яго, але яму не выбавіцца з прывычных абаротаў. Якім ён быў, такім і застаецца. Але ж, не забудзем, што ён быў яшчэ і сынам свайго народа, грамадзянінам сваёй краіны: «Першы заход няўдалы, трэба пачынаць другі. Бо такі, відаць, яго лёс. Ягоны лёс. Ды і народны таксама. Што ж яшчэ застаецца? Да скону біцца за савецкую ўладу. Іншай жа няма».

Радзіму не выбіраюць, яе прымаюць такой, якой яна ёсць. Прынамсі, людзі, падобныя Ягору Азевічу. Асабістае адступае перад болем агульным, перад абавязкамі. У Азевіча — свая праўда, свая яна і ў Вайцяшонка. Іншая справа, што пра гэтую, другую праўду яшчэ раней літаратура не мела права гаварыць, а калі і гаварыла, дык мімаходзь, з аглядкаю, у адмоўным плане. Хаця — не ўсе яе творцы. В. Быкаў — пісаў. А што напісанае знаходзілася ў запасніках, не яго віна.

Як быццам усе кропкі ў аповесці расстаўлены. Сама час і развітацца з галоўным героем: «З наганам напагатове ён памалу патупаў да ўзлесся, штораз азіраючыся. Ззаду за ім, не падбягаючы блізка, то бег, то прыпыняўся Ваўкалака. Чагосьці чакаў ад чалавека...»

Чаму ж, у такім разе, гэта развітанне для мяне, чытача, доўжыцца і доўжыцца, чаму позірк запыняецца на апошнім сказе ў творы: «Чагосьці чакаў ад чалавека...» Бо — ішоў пяты месяц вайны. Усяго толькі пяты месяц. Колькі яшчэ выпрабаванняў чакала наперадзе Ягора Азевіча, увесь наш народ.

Ішоў пяты месяц вайны. Пра яго і пра тое, што папярэднічала гэтаму, — новая аповесць В. Быкава. Як заўсёды, нечаканая, непрадказальная, таленавітая.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

Што ты бачыш, скажы, за дажджлівай смугою!
Ты гаворыш: шкада мне пчалу залатую,
Што украдзена з ружы вадой дажджавою...

Яшчэ будуць высокія цёплыя травы,
Яшчэ будзе пчала па-над кветкамі віцца.
І пайду я па горадзе ў пошуках стравы,
Ты ў царкву — за здароўе дачушкі маліцца.

●

...Гэта зноў ляціць самота да мяне
Жоўтым матылём над жоўтаю травой.
Як матыль — агонь, яна не абміне
Мой няўтульны, мой пракураны пакой.

Як праз неба, я гляджу праз шыбу ў свет,
Дзе рукой махнулі на мяне даўно.
Праўда, часам чую: «Тут жыве паэт...
У яго былі мы і пілі віно...»

А матыль ляціць — мой госць і вораг мой.
Не прагнаць яго і не забіць нічым.
І смяецца страшна Нехта за сцяной,
І жыццё такое, як над свечкай дым.

●

Зноў на вуліцах ціха і сумна,
Нам абрыдла змагацца, шумець.
Зноў у барах насмечана, тлумна
І душа зноў жадае ляцець
У нязведаны свет, пад аблокі.
Ёй зноў хочацца цішы, святла.
Ды ўсё добрае вельмі далёка...
Як далёка ты, воля, была!
Ці сапраўдная ты? Невядома...
Няўжо воля у барах жыве!
І не хочацца верыць нікому,
Як і сонцу, што ў небе плыве,
Бо навокал так змрочна, бы ў склепе...
На Айчыну праз пляшкі глядзім
І гаворым аб солі і хлебе
І плывём над Айчынай, як дым.
А на вуліцах ціха і сумна.
Толькі ў барах гуляюць, шумяць.
І так многа у барах разумных,
Што няма каго к чорту пасланць.

●

Сярод вялікіх, чорных валуноў
Шарэе мокры попел ад кастроў.
Сядзіць, як пан, груган на валуне,
Глядзіць варожа, чорны, на мяне.
І мне яго павек не зразумець.
Мне па зямлі ісці, яму ляцець,
І мне ля гэтых чорных валуноў
Ніколі не сустрэць былых сяброў,
Што адляцелі ў невядомы свет,
Як горкі дым, што слаўся па траве...
Мне болей не раскласці тут касцёр,
Я ўжо не той. Я той — даўно памёр.



Фота А. МАЦЮША.

ным. І сапраўды, навошта? Што там, хоць на фанерцы, хоць на пяціметровай прасціне можа быць такое напісана, каб прачытаў — здзівіўся?.. Во пасмяяцца, калі ўсе смяюцца,—з прыемнасцю.

Рогат панаваў на плошчы.

Дахаты Трэзаў вярнуўся прыціхлы і азадачаны: рыхтаваўся ён ніяк не да рогату, а да чагосьці сур'ёзнага. Ну, не тое, каб сухароў насушыў, але ж добра паснедаў перад выхадам і пераапрануўся ў чыстае. Хату зачыніў на два замкі, кату ежы пакінуў. Не намнога, а на пятнаццаць сутак цвёрда разлічваў.

Аціх.

Аднак на майскія святы вырашыў яшчэ раз паспрабаваць. Паднавіў тэкст: паставіў у канцы клічнік.

Нешта нязвыклае падалося яму ў калонах працоўных. Трыбуна, сцягі, гумавыя паветраныя шарыкі — усё як мае быць, але ж чагосьці не хапала. Чаго?.. І зразумеў: калі тым разам працоўныя неслі партрэты Гарбачова з Рыжковым, а школа глуханямых і гарадское ВТВ таксама і членаў палітбюро, то цяпер нікога не неслі.

І зноў засмяяліся людзі, калі пайшоў Трэзаў уперадзе ўсіх калон. З'ехаў дзед з панталыку, вырашылі, так і будзе першым, пакуль не памрэ.

Ён нават паварочваў сваю фанерку— адзін раз да ўлады, другі — да людзей. Ізноў галасіў: «Хто жыруе...» — аднак рогат панаваў такі, што ніхто яго не пачуў. А хто пачуў — не зразумеў. А хто зразумеў... Што зробіш? Так і ёсць. Было і будзе.

Пасля дэманстрацыі Трэзаў закінуў фанерку ў хлеў. Там яна і пакрываецца пылам каторы год.

У Маскву болей не ездзіць, ні на якія мітынгі не зважае.

Цяпер ён любіць успомніць мінулае, распавядаць жадаючым, як стаяў ля Крамля, як міліцыя набыла для яго зваротны білет.

Вось і ўся гісторыя.

Ага, ледзь не забыў! Калі набліжаліся выбары ў Вярхоўны Савет, Трэзаў вельмі ўважліва вывучаў праграмы абодвух кандытатаў ад іх раёна. Адзін кандыдат быў вялікі начальнік, другі — таксама не малы. Адна праграма яму ўпадабалася, другая — не. Ужо за тыдзень да выбараў ведаў, за каго належыць галасаваць. А зайшоў у кабінку і пачаў сумнявацца. Праўда, нядоўга. Выкрасліў аднаго, пачухаў патыліцу і — другога. І адразу адчуў, што правільна выканаў свой грамадзянскі абавязак.

І яшчэ. Трэзаў не рыбак, аднак боты сабе рыбацкія набыў. Аніякае разводдзе цяпер не палохае яго. Старой няма, а кот можа і на даху пасядзець тыдзень-другі.

## Пастка

На пятым годзе перабудовы ў горадзе, як ніколі раней, развяліся пацукі. Няспешна перабягалі па вуліцах з хлява ў хлеў, са скляпка ў скляпок, варушыліся на звалках, у зімовыя маразы цэлымі вывадкамі ўсаджваліся на свіней грэцца і не спяшаліся ў цёмныя куткі, нават калі з'яўлялася гаспадыня.

Тады і ўспомніў Сцяпан Пахомчык пра ржавую даваенную пастку, якую закінуў некалі на гару хаты. Адшукаў, адмыў газай, змазаў салідолам. Пастка — ваўчыная, напалам разносіла пацукоў, за тыдзень пазбавіўся нечысці. Апусціў яе у скляпок — у ім таксама шамацеў вывадак, злосна пазглядаючы са сцен, паліц, калі Пахомчык адчыняў дзверы.

Аднак гаворка не пра пацуковае нашэсце, а пра эпідэмію крадзяжу. А сувязь пакуль толькі такая, што злодзеяў на пятым годзе таксама развялося, як пацукоў, і гэтак жа бессаромна нахабнічалі ў горадзе. Нават удзень нельга было пакінуць без прыгляду на сваім двары ні вілы, ні граблі, а ўжо з вечара да раніцы пацукі ў чалавечым абліччы шчыравалі як ім хацелася і на гарышчах, і па скляпках. Пайшла чутка, што ў горадзе дзейнічае банда, і людзі спадзяваліся — вось-вось пападзецца. Але калі **яны** абрабавалі скляпок начальніка міліцыі, усе зразумелі — канец свету, спадзявацца можна толькі на сябе. Тыя старыя, якія жылі без маладых, панеслі са скляпкоў і кладовак у хаты найдаражэйшае: варэнне, прыгатаванае для ўнукаў, кампоты, баначкі згушчанага малака.. Хавалі пад ложкі, аднак усё роўна прыслухоўваліся, выглядалі ў вокны і амаль што не спалі па начах. Таксама і Пахомчык напхаў пад ложак салёных гуркоў — адзінае, што назапашваў сабе на зіму пасля смерці старой, і цяпер ляжаў, пасмейваючыся, уяўляючы, які хрэн з маслам **яны** знойдуць, калі забяруцца да яго.

У той дзень, калі апусціў пастку ў скляпок, падалося яму, што нехта мякка прайшоў міма вакна сярод ночы. Не хацелася падымацца, апранацца, але ж — трэба праверыць. Час і пастку аглядзець — разарве вывадак таго, каторы папаўся, пачуўшы кроў, разнясе па кутках.

Накінуў на плечы кажушок, узяў сякеру, прыгатаваную загадзя, пакрочыў у поцемкі. І толькі было прыгатаваўся памачыцца на волі, як у скляпку пачуўся ўдар і стогн. Дзверы скляпка былі адчынены. Уключыў ліхтарык, што ўвосень яшчэ падарыў унук, кінуўся з сякерай ўніз.

Усё, што хочаш, мог спадзявацца ўбачыць Сцяпан, аднак не тое, што ўбачыў — злодзеем быў сусед, Міхась Чалы. Чалавек, з якім трыццаць гадоў жыў побач, па суботах з каторым хадзіў у лазню, а затым чэсна дзяліў чацвярцінку.

Тлумачыў сваё з'яўленне ў чужым скляпку Міхась Чалы доўга. Прычына нібыта была ў тым, што ўкралі ў яго бутлю на трыццаць літраў, у якой ён штогод цісну яблычнае віно. І ён, Чалы, западозрыў у злачынстве Сцяпана: хто яшчэ мог ведаць, дзе захоўваецца і з чым? А западозрыўшы, вырашыў праверыць самастойна. Не заяўляць жа ў міліцыю? Гэта можна і чалавека зняславіць, і самому зняславіцца. Ломам выцягнуў прабой...

Што было рабіць Сцяпану пасля такой споведзі? Здаць у міліцыю з пасткаю на назе? Аднак крадзяжу ў горадзе многа — усё павесяць на Чалага, упякуць на старасці гадкоў на пяць. Як потым сустракацца з ягонай жонкаю, дзецьмі, унукамі?

Вырашыў даравацць, адпусціць.

Падазрэнне, аднак, захавалася. Справа ў тым, што летась у яго знеслі са двара касу «сямёрук», дзедаву яшчэ — лёгенькую, спружыністую, лязо, як агонь. Надта шкадаваў і перажываў страту. А тут успомніў, як аднойчы бег Чалы, убачыўшы яго, з агарода ў прыбіральню з касой у руцэ і сядзеў там, пакуль Сцяпану не надакучыла чакаць. І чым болей думаў пра гэта, тым больш пераконваўся — ён.

Распаліўшы сябе ўспамінамі, Сцяпан вырашыў — трэба праверыць. Але ж — як? А гэтаксама, як правяраў Чалы, ноччу. Маральнае права на вобыск адчуваў. Чужога не збіраўся браць.

Аднак дзе Чалы мог хаваць чужую касу? Ужо ж ясна, не на вачах, не ў кладоўцы і не ў хляве, а як-небудзь хітрэй. Ці не на гарышчы хаты? Чаму, калі запытацца, дзверцы на гарышча трымае пад замком? Што ўжо там гэткае каштоўнае?

Мярзотнае падазрэнне не давало спакою, і праз месяц пасля таго, як злавіў Чалага ў скляпку, Сцяпан рызыкнуў.

Усё спачатку атрымлівалася добра. Папершае, снегу яшчэ не было, па-другое, падмарозіла — не застанецца слядоў. Прынамсі, сляды не надта турбавалі. Калі знойдзе касу, скажа ў твар: «Злодзей ты, Міхаська», — а калі не знойдзе: «Даруй, сумленны ты чалавек». Прыгатаваў лесвіцу, ліхтарык, лёгенькі ломік. Дачакаўся трэцяй гадзіны ночы, калі Чалы мусіць дрыхнуць, як стары шашок, і, моцна хвалюючыся, прыткнуў лесвіцу да сцяны. Прабой вылез з асады, як з масла...

Чаго толькі ні было на гарышчы ў Чалага! Стары хамут, хаця апошні ягоны конь здох год трыццаць таму, дзіцячая каляска без двух колаў, недаробленая аконная рама, старадаўняе мяккае крэсла з аголенымі спружынамі, груваскі куфар, кола ад калоўрота, вязанкі бярозавых венікаў, сядзенне ад матацыкла і пыл, пыл... А калі ўбачыў старую лапату і вілы без навільніка, адчуў, што зараз знойдзе і сваю касу. Зразумела, Чалы мог памяняць і кассё, і кліны, і «баньку», але ж лязо не зменіш і яго, са шчарбінкаю, пазнае ён з першага погляду.

Пачаў даследаванне з таго кута, дзе ўзвышаліся ржавыя вёдры і ляжалі парожнія бутэлькі. Галоўнае — не бразгануць, не паваліцца ў поцемках, не ўдарыцца галавой у крокву, не...

Цяжка сказаць, колькі часу правёў Сцяпан на гары, аднак ужо добра заміргцела, калі дапоўз да груваскага куфра — апошняга прытулку падазрэння і месца надзеі. Падняў вечка — убачыў дзіцячыя цацкі і з палёгкаю апусціў яго. Адчуў, што стаміўся, бы дровы вазіў, а яшчэ адчуў радасць, што сусед — сумленны чалавек.

Калі вылез на лесвіцу, падалося, што нехта стаіць унізе. Прыглядзеўся — так і ёсць.

Міхаська чакаў яго з сякерай ў руцэ.

Трэба заўважыць, што Міхась, калі сядзелі за сталом, чэсна дзелячы бутэльку «Агдама», паверыў яму хутчэй, чым ён. Сцяпан нават пазайздросціў яго даверлівасці: харошы чалавек заўжды дасць веры лягчэй, чым дрэнны. Аднак, чаго імчаўся з касою ў прыбіральню? Цікава было б паглядзець пад ложак...

Сядзелі і гаварылі доўга. Было што абмеркаваць: у тую ноч **яны** абчысцілі яшчэ два скляпкі — раённага пракурора і суддзі.

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

**Ксенія КАРНЕЙЧЫК**

## МАЯ ВОСЕНЬ

Адгаманіла ручайком маленства,
І маладосць півоняй адцвіла.
І старасць ужо чэпіцца ў суседства,
Як быццам памарудзіць не магла.

Вясенні спеў салоўкі не кранае —
Хвалюе больш зязюльчына «ку-ку».
Яна то адпачне, а то лятае,
Адлічвае мне рэшту на вяку.

Становіцца на сэрцы так трывожна,
Калі пачую жальбу птушкі-кані.
Жыццё па кропельцы смакую, асцярожна,
Як каня — срэбныя расінкі ўранні.

Калі ж я на зялёным дрэве ўлетку
Найпершы жоўты ліст пабачу —
Сарву яго няспешна неўзаметку,
Як волас свой сівы, ды ўпотайкі заплачу.

Лагойскі р-н.

**Віктар ТРУСЕВІЧ**

●

Не можа мой народ
Аднойчы ў Лету кануць.
Павінен аб сабе
І ён пакінуць памяць.

Патрэбна шанаваць
Сваё заўсёды слова.
Датуль жыве народ
Пакуль існуе мова.

●

Никто не даст нам избавленья:
ни бог, ни царь, и не герой...

З песні «Інтэрнацыянал».

Пад заклікі на паперы,
Пад ліхі каманды крык
Ішлі наперад і наперад
І прыйшлі... ў глухі тупік.

Хто ж цяпер залечыць раны!..
Ні герой, ні цар, ні Бог.
Бо касцямі шлях услалы
Нашых «слаўных перамог».

Нясвіжскі раён,
вёска Затур'я.

# Ад лацінскага «Sollertus»

### Зноў пра фестывальны Віцебск

## Парад планет

Не шукайце аўтарскіх звышсімпатый у тым, што імя горада, калісь параўнанага з Парыжам, не сыходзіць з нашых старонак. Фестывалі, якімі славіцца сёння Віцебск, па сваёй духоўнай паўнаце, прадстаўнічасці часцяком сягаюць за межы «маленькіх сямейных радасцей». Вось і IV Міжнародны музычны, імя І. Салярцінскага, набыў высокае інтэрнацыянальнае гучанне (а пры не такой сціплай рэкламе мог мець і шырэйшы розгалас).

Дырэктар фестывалю, старшыня абласнога Музычнага таварыства У. Правілаў, мабілізаваў усе свае арганізатарскія здольнасці, каб у няпэўных фінансавых ды сацыяльных умовах захаваць добры мастацкі ўзровень канцэртных праграм, сабраць адметных асобаў для ўдзелу ў навуковых чытаннях, а накладкі, ад якіх незастрахаваны ніхто, звесці да мінімуму.

Дзе музыка — там ярчэюць пачуцці. Робіцца запамінальным амаль кожны крок па Віцебску, феномен якога пераплаўляе саромна-прыкрыя банальнасці, аднолькавыя для ўсіх «савецкіх» гарадоў, ды неразгаданасць свайго, непаўторнага варыянту жыцця. (Во дзіва: ці не нашчадкі таго малапісьменнага местачковага крамара, чый дом з каларытнай шыльдаю «Лафка» ўмаляваў вядомы мастак без малога век таму, — ці не яны аздобілі сёння фасад падноўленай камяніцы гордым словам «Комерческий», самі таго не ведаючы, сэканоміўшы цэлую літару!).

Віцебскі феномен — колькі пра тое ні кажы, тэма невычэрпная, — так або іначай персаніфікаваўся ў выбітных постацях: М. Бахцін, М. Дабужынскі, В. Ермалаева, М. Малько, Л. Пумпянскі, Ю. Пэн, І. Салярцінскі, М. Шагал і яшчэ, яшчэ... Асоба І. Салярцінскага, натуральна, была дамінантай фестывальных дзён: віцебскае музычнае свята звязана з ягоным імем традыцыйна, а тут яшчэ, якраз 3 снежня, адзначалася 90-годдзе з дня яго нараджэння.

Думкі бездапаможна разбіваюцца аб маналіт неспазнанай прыроды генія, пасланага на зямлю ў той час, калі правадыры грамадства ўкаранялі казарменную дысцыпліну ў мысленні, пачуццях, памкненнях. Геній нарадзіўся ў Віцебску...

Нейкі час І. Салярцінскі гадаваўся ў Піцеры, а 16-гадовым юнаком, ратуючыся ад расійскай галечы, прытуліўся ў матчынай віцебскай радні. Ненадоўга, але дастаткова, каб у стракатым касмапалітычным хаўрусе тамтэйшай інтэлігенцыі знайсці свае прафесійныя і духоўныя арыенціры. (Пра маці, між іншым, вядома, што ейная сям'я пераехала ў Віцебск з Польшчы (ці мо з нашых заходніх земляў) пасля падзей 1863 г., сёстры-беспасажніцы ды брат пражылі ў самоце, нашчадкаў не пакінулі).

«Чалавек з будучыні». Знаўца 23-х моваў (у тым ліку санскрыт, хіндзі, антычныя) і некалькіх дыялектаў. Энцыклапедыст з фенаменальнай памяццю, які цытаваў на памяць Шэкспіра, Пушкіна, Платона, Арыстоцеля, хаця фармальна лічыўся недавукам. Неверагодна — у змрочныя 30-я вадзіў сяброўства з вядучымі кампазітарамі Захаду, знаёміў з навінкамі Г. Малера, А. Брукнера, А. Шонберга савецкіх слухачоў. Быў лінгвістам і музычным асветнікам, прамоўцай-філосафам і літаратурным крытыкам, знаўцай балета і гісторыкам тэатральнай драматургіі. А пражыў толькі 41 год...

Удзельніца фестывальных чытанняў пецярбургская музыказнаўца Л. Міхеева-Салярцінская (нявестка Івана Іванавіча, аўтар кнігі пра яго) уражвала слухачоў прыкладамі шматбаковай дзейнасці знакамітага сваяка. Галоўнае ж — доказна зазначыла ўплывовую ролю асобы І. Салярцінскага. Гэта пад ягоным уплывам Я. Мравінскі з дырыжора выключна балетных спектакляў вырас у Маэстра сусветнай велічыні; і Д. Шастаковіч зрабіўся тым, хто ён ёсць. (Кампазітар і сам пісаў, што ўсім сваім жыццём ён абавязаны Салярцінскаму). У страшныя 30-я менавіта дзякуючы сябру Шастаковіч прыахвоціўся да музыкі выключна інструментальнай, не звязанай са словам, а таму — найбольш вольнага і бяспечнага занятку, на які нельга было пачапіць палітычную бірку. Хоць гэта і не ўратавала ад праблем.

Драматычнаю сталася й праблема «неажыццёўленага Салярцінскага», вымушанага працаваць у вузкіх рамках марксісцка-ленінскай дактрыны, каб выкладаць, выступаць з лекцыямі, проста жыць... Захаваліся ягоныя накіды папулярнага нарыса пра псіхааналіз — нават гэткае нельга было публікаваць.

Рознабаковасць Салярцінскага, раскрыццё яго музычнага талента можна прыгожа спакровіць з паліфанічным часам ды абаяльнай атмасферай Віцебска. (Вядома, што рана страціўшы бацьку, віднага судовага чыноўніка, сям'я жыла бедна, раяля не мела і музыцы Салярцінскага не вучылі змалку, як іншых дзяцей з такога саслоўя. Але першыя музычныя ўражанні ды, бадай, лёсавызначальнае захапленне, даліся яму канцэртным жыццём Віцебска). Ды можна планетарны маштаб ягонай натуры трактаваць як генетычную спадчыну мінулых пакаленняў. Нездарма ён быў носьбітам дзіўнага прыгожага прозвішча, утворанага ад лацінскага «sollertus», што значыць умелы, разумны, таленавіты, вынаходлівы ў творчасці. Прозвішча, мяркуюць, атрымаў у духоўнай семінарыі далёкі продак — сям'я Салярцінскіх паходжаннем са святароў.

А ягоная спадчына ўсё чакае духоўных нашчадкаў. Бо выдадзена мізэрная частка рукапісаў, малымі тыражамі. Для дзённікаў, дзе багата загадкавых запісаў на санскрыце ды на старажытнапартугальскай (адкрыта давяраць свае думкі паперы было ў той час рызыкоўна), патрэбны «дэшыфроўшчыкі».

●

Побач з Салярцінскім былі ў Віцебску іншыя сусветна вядомыя асобы, вартыя, таксама як ён, большай папулярнасці, чым сёння маюць, і ў нас.

Кумір многіх заходніх вучоных М. Бахцін успрымаецца людам тутэйшым нібы планета incognita, на якую цікава зрэдчас кінуць няўзброеным вокам. А дацэнт Віцебскага педінстытута М. Панькоў, зірнуўшы нават не ў бінокль, а ў тэлескоп, рызыкнуў да гэтай планеты наблізіцца. Яго можна павіншаваць з першым плёнам дзёрзкай «экспедыцыі»: з год назад меўшы намер выдаць альманах «Дыялог. Карнавал. Хранатоп» (назва склалася з ключавых паняццяў бахцінскай філасофіі), М. Панькоў узбіўся аж на часопіс. Першы нумар, пра тое паведамлялася асобна, склалі арыгінальныя працы, натхнёныя тэарэтычнай спадчынай М. Бахціна, фактурай эпохі выдатнага філосафа, літаратуразнаўцы, культуролага. У міжнародную рэдкалегію ўвайшлі вучоныя з Канады, Германіі, Расіі, ЗША, Вялікабрытаніі.

На фестывальных чытаннях М. Панькоў узнавіў акалічнасці абароны дысертацыі М. Бахціна («Франсуа Рабле...», 1946 г.). Гэта была беспрэцэдэнтная падзея, калі навуковай ступені спадобілася работа, аўтар якой не меў дыплома аб вышэйшай адукацыі. Прытым большасцю галасоў неардынарная праца атэстоўвалася нават як доктарская дысертацыя! Пасля шасцігадовых (!) дэбатаў у ВАКу выспела рашэнне: дысертацыю доктарскімі лаўрамі не ганараваць, і зрабіўся Бахцін кандыдатам філалагічных навук.

Не бунтар, ён пачуваўся гэткім унутраным эмігрантам у СССР. У 60-я гады адмовіўся ад вылучэння на званне прафесара і лаўрэата Ленінскай прэміі: «Філосаф павінен быць нікім, бо калі ён робіцца кімсьці, дык ён пачынае прыстасоўваць сваю філасофію да сваёй пасады». Так да скону і застаўся з банальна-масавай адзнакай «кандыдат», будучы арыгінальным вучоным, якога ўшанаваў свет.

Шанаваў культурны свет і М. Юдзіну, пра якую ўспамінаў маскоўскі мастацтвазнаўца А. Кузняцоў. Наша зямлячка, яна скончыла Пецярбургскую кансерваторыю і ўрэшце, як гэта вялося й часцяком дасюль надараецца, звязала свой лёс з Расіяй, захаваўшы ў памяці віцебскія леты. Бліскучая, эрудзіраваная піяністка, якую параўноўвалі з Бузоні, М. Рубінштэйнам, яна нястомна іграла новае, у ансамблі з ёю выступалі выдатныя іншаземныя дырыжоры. Прафесар кансерваторыі, яна адмовілася ад класа спецыяльнага фартэпіяна і стварыла школу камерных ансамблістаў, бо сама любіла партнёрства і сатворчасць.

Зважанне ейнае на іншага чалавека, цікавасць да яго значылі не адно тое, што бахцінская ідэя дыялагічнага бытавання чалавечай свядомасці трапіла на спрыяльную глебу. Альтруізм, незвычайны для творчага індывідуума, вынікаў з хрысціянскага светапогляду М. Юдзінай, якая з яўрэйства хрысцілася ў праваслаўе і заставалася чалавекам глыбокай веры, перакананая, між іншым, і ў тым, што ў часіну рэпрэсій жыццё яе ўратаваў Бог.

А вось жыццё літаратуразнаўцы П. Мядзведзева (летась адзначана 100-годдзе) скончылася трагічна: ГУЛАГ, расстрэл, знішчэнне архіву, забыццё імя. З Віцебскам яго звязвала маладосць. Юрыст, чэлец гарадской управы, 26-гадовы П. Мядзведзеў пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. быў абраны віцебскім гарадскім галавой, чаго ніколі не магла дараваць савецкая ўлада. Але і пасля кастрычніка спатрэбілася ягоная адукаванасць: узначальваў Губернскі пададдзел пазашкольнай адукацыі ды пададдзел мастацтваў. Там працаваў поруч з М. Шагалам, разам удзельнічалі ў адкрыцці народнага мастацкага вучылішча, у закупцы карцін для Губернскага музея. (Дарэчы, сын вучонага Ю. Мядзведзеў, рэдактар аддзела культуры піцерскага часопіса «Аврора», удзельнік чытанняў, знайшоў-такі ў Віцебскім архіве дакументы са службовымі рэзалюцыямі таго й другога).

Па ініцыятыве П. Мядзведзева ў 1918 г. было ўтворана Віцебскае таварыства вольнай эстэтыкі. А ў 20-м адбылася «сустрэча дзвюх суверэнных свядомасцей» — Мядзведзева ды Бахціна, — якая жывіла творчасць абодвух...

Успала раптам на думку: а яны ж усе — з роду Салярцінскіх. Усе, скажу так, авангардныя асобы — у навуцы, мастацтве, асветніцтве, публіцыстычнай творчасці — з роду адораных добрым стваральным геніем, з роду ўмелых.

З іх роду — супрэматыст К. Малевіч, пра чыю наватарскую педагагічную тэорыю, апрабаваную ў Віцебскай мастацкай школе, распавядаў мастак-віцяблянін А. Малей.

І вынаходнік «эвахамалогіі» А. Ахолавала, колішні віцебскі мастак фінскага паходжання, які кантактаваў з Пэнам, Малевічам, Шагалам, Ермалаевай, удзельнічаў у выстаўках, пісаў лозунгі, а праз многа дзесяцігоддзяў склаў «культурную карту» Віцебска 20-х... Мае 92 гадкі, буйны вучоны, жыве ў Фінляндыі, памятае Беларусь. Нядаўна ў яго гасцявала мінская мастацтвазнаўца Л. Налівайка, якая выступіла на фестывалі з цікавым паведамленнем, падкрэсліўшы, што сп. Ахолавала не забыўся на беларускую мову, якую вывучаў яшчэ ў 20-я, цудоўна размаўляе, перадае прывітанне спадарству на Беларусі і падумвае пра супрацоўніцтва. (Дапускаю, што культурныя і дзелавыя кантакты з мастаком хутчэй узнікнуць па лініі Шагалаўскага камітэта, бо яго энергічны старшыня Д. Сімановіч падхапіў гэтую ідэю адразу ж, а ў спадароў чыноўнікаў тэмпы іншыя).

М. Малько, кіраўнік сімфанічнага аркестра, педагог народнай кансерваторыі ў Віцебску, дырыжор сусветнага ўзроўню, які спачыў у Аўстраліі... Пра яго згадвалі ў сваіх паведамленнях навучэнцы Віцебскага музычнага вучылішча ды гаспадыня Музычнай гасцёўні Н. Гапеева.

Добры, дарэчы, знак—удзел у навуковых чытаннях зусім юных гісторыкаў-музыказнаўцаў. Іх выступленні радавалі змястоўнасцю, імкненнем зацікавіць аўдыторыю: ілюстраваліся паказам слайдаў з малавядомых фота, гучаннем твораў віцебскага кампазітара, педагога, рэдактара «Витебских губернских новостей» М. Анцава (спяваў хор вучылішча пад кіраўніцтвам А. Суворава) ды знанага дырыжора і кампазітара, ураджэнца гэтага горада Г. Юдзіна (гралі педагогі, скрыпач У. Бяссонаў і піяністка В. Дарэнскіх). Не здзіўлюся, калі хто з тых маладзёнаў пачне праз пару гадоў друкавацца ў «ЛіМе»...

## «Раскажыце, што мы ёсць!»

«А многія і не ведаюць, што ў Віцебску мастацкі музей ёсць», — уздыхалі яго супрацоўнікі. Дальбог рупліўцы, але ж чакаюць і ўвагі ад колішніх віцяблян, свежых ідэй чакаюць, на дарункі ў фонд спадзяюцца, тым болей, што мастацкая школа Віцебска ў 93-м двайны юбілей адзначае.

Адкрыўся музей летась летам, займае пакуль некалькі пакояў у гістарычным будынку акруговага суда, дзе нядаўна месціўся абком партыі. Першы вернісаж вярнуў гораду творчасць Ю. Пэна, і «ЛіМ» тую падзею не абмінуў. І вось — аж тры экспазіцыі.

У залах жывапісу — палотны мастакоў, звязаных з Віцебшчынай, Рэалістычныя пейзажы, партрэты. Але наколькі бяднейшымі былі б уражанні, калі б не знаёмства з экскурсаводам Г. Бебрынай. Вось хто багата ведае. І пра знакамітага ўраджэнца Улы І. Хруцкага, які ажаніўся з мілаю суседкай, дачкой капітана Касцюшкавай арміі. І пра настаўніка малявання ў Люціне П. Верашчагіна, брата знакамітага баталіста. І пра моднага ў свой час Ю. Клевера, які па запрашэнні памешчыка Перота правёў у 1899 г. пленэр, пасля наладзіў 1-ю ў Віцебску мастацкую выстаўку — работы Ю. Пэна, І. Рэпіна, уласныя. «Амбросавічы» — вясковы пейзаж Ю. Клевера — цяпер арганічная частка музейнай калекцыі. Як і жывапіс С. Заранкі, сына прыгоннага з вёскі Ляды на Дубровеншчыне: вядомы прыдворнай Расіі майстра, з чыім імем з'явілася новае паняцце ў мастацкай творчасці — «пластычны партрэт».

Дзякуй Ганне Мікалаеўне, звярнула ўвагу на тое, што экспазіцыя жывапісу ды прыкладнога мастацтва XIX ст. (калекцыя вышывак бісерам — сапраўдныя ацалелыя работы віцебскіх майстрых) — своеасаблівае дапаўненне да размешчанай у суседніх залах выстаўкі з нагоды падзей вайны 1812 г. Для жаночага вуха тэма, мякка кажучы, незабаўлівая, але...



Заслужаны артыст Беларусі В. СКАРАБАГАТАЎ.



Лаўрэат Міжнароднага конкурсу Д. ЯКУБОЎСКІ.

Дайце веры, не хацелася пакідаць залы, дзе падзеі той, малаўразумелай для беларуса, вайны паўсталі без ура-патрыятычных бразготак, з мудрай летапіснай бясстраснасцю, але і засяроджанасцю на цікавых дэталях. Тут і ці не першы ў гісторыі Расійскай імперыі створаны на Віцебшчыне своеасаблівы сацыялагічны дакумент, і тагачасныя карты, і кнігі з апісаннем побыту і звычаяў насельніцтва Віцебшчыны, і касцюмы, і габелены, і вышыты шоўкам з тонкасцю акварэльнай мініяцюры партрэт Напалеона, і ягоны ж мармуровы бюст з адбітым носам, і сервіз для кавы «Жазэфіна», і дамскія пальчаткі, і рэчы вайсковага побыту...

Яшчэ нечаканасць — здавалася б, традыцыйная экспазіцыя, зладжаная ў музеі да юбілеяў Купалы і Коласа. Ініцыятар выстаўкі С. Казлова прапанавала своеасаблівую канцэпцыю — позірк гісторыка на развіццё беларускай нацыі з яе векавымі традыцыямі ды сённяшнімі духоўнымі праблемамі, з надзеяй на ўсведамленне беларусамі — сябе.

## Дыялог, карнавал...

Выпадковасць ёсць знак вышэйшай заканамернасці. Як не задумацца пра гэта, калі, забегшы ў гасцініцу перад канцэртам і на хвілінку ўключыўшы тэлевізар, бачыш крытыка І. Залатускага і чуеш цытаванне ўлюбёнага ім Гогаля: маўляў, толькі тое — мастацтва, дзе ёсць прымірэнне з жыццём. Як хораша... Як слушна... Як па-хрысціянску сказана... Сёння ж мо толькі музыка, з утрапёным пастаянствам, паслядоўнасцю, дый за іншыя мастацтвы, нясе гэты крыж, нясе прымірэнне, без якога не будзе й самога жыцця. Па-майстэрску зробленыя творы кіно, драматычнага тэатра, эстраднае відовішча ці выява на выстаўцы могуць, бывае, паглыбіць разлад чалавека з рэчаіснасцю, а то і справакаваць агрэсію. Праўдзівая музыка — гарманізуе, бо саступае, гаворачы паэтавымі словамі, адной любові, «но и любовь — мелодия...»

Пакуль ёсць людзі, здатныя з дапамогаю мастацтва то ўзнесціся над марнасцямі жыцця, то схіліцца да яго зямных каранёў, — жыццё прадаўжаецца, і яно цудоўнае.

У Віцебску музыка ўспрымаецца зусім адметна, быццам твайму дыялогу з ёю спрыяе дух слынных мысляроў ды творцаў: то Гогаля, то Бахціна, то Шагала, то Пушкіна. Быццам лунаеш на няўгледных арэлях: Апалонава песня перапыняецца смехам Дыёніса, дыянісійскі ж карнавал аціхае пад гукі ліры Апалона...

Музычныя кантрасты — абавязковая пазнака фестывалю імя І. Салярцінскага. Пачатак быў «апалонаўскі», высокая класіка: І. Гайдн, І. К. Бах, В. Моцарт, П. Чайкоўскі. Гралі госці з Пецярбурга — малады канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам дырыжора Ю. Ніканенкі. Уразіў Канцэрт для альта з аркестрам І. К. Баха: гранне саліста лаўрэата Міжнароднага конкурсу Д. Якубоўскага, дзівосна пераўтварыўшы тэмбр спецыфічнага інструмента, нагадвала прыгожы спеў, пачуццёвасць чалавечага голасу.

Дзівосы былі й на канцэрце маскоўскага фартэпіяннага дуэта, прафесароў Т. Курасавай ды А. Вядзернікава. Яны прапагандуюць музыку для 2-х раяляў, суправаджаючы праграму пазнаваўчым каментарыем. Колькі рознага й невядомага перайгралі! Канцэрт І. Стравінскага, створаны для выканання ў гарадах, якія не маюць сімфанічнага аркестра. Апошні фартэпіянны твор К. Дэбюсі, навеяны пакутамі і барацьбой Францыі з нямецкімі захопнікамі ў час ІІ сусветнай вайны — імпрэсіяніцкая сюіта «Па белым і чорным» з выкарыстаннем літаратурных эпіграфаў. Пяцічасткавая «Шахматная серэнада» В. Рыеці (ЗША), Саната буйнога заходнегерманскага кампазітара Г. Клебе... Публіка вымагала «бісоў», і не верылася, што гэткае віртуознае артыстычнае гранне дэманструюць выканаўцы досыць пажылога ўзросту. (Кажуць, А. Вядзернікаў — адзін з нямногіх старых сяброў С. Рыхтэра і лёс у яго нялёгкі...).

Без апірышча канцэртных праграм— «Класік-Авангарда», без ягонага маэстра, ураджэнца Віцебска, У. Байдава, ініцыятара фестывалю імя І. Салярцінскага, нічога і не было б. Імя ансамбля нясе ў сабе парадокс і таму заўжды зусім пабахцінску абяцае дыялог: рафінаванага і карнавальнага, кананічнага і апазіцыйнага, сваю непаўторную «часапрастору» — хранатоп.

На гэты раз нястомныя байдаўцы правялі 4 канцэрты, удзельнікамі якіх былі таксама іншыя выканаўцы. Саліст А. Крымер, напрыклад: ён іграў Санату Г. Свірыдава, прысвечаную памяці І. Салярцінскага, і менавіта ў дзень юбілею, і ў сценах вучылішча, якое адзначана імем Салярцінскага і са сцэны якога штовечар загадкава ўзіраўся ў публіку яго маўклівы скульптурны вобраз. Сталая спадарожніца «Класік-Авангарда» літоўская спявачка Ю. Лейтайтэ ўпрыгожыла праграмы характарыстычнымі «Прибаутками» І. Стравінскага, імпульсіўнымі іспанскімі песнямі, экзатычнымі «Песнямі Мадагаскара» М. Равеля, вытанчанымі мініяцюрамі Ж.- Б. Векерлена.

Ненасытныя «музыкаголікі»— артысты ансамбля перайгралі за некалькі фестывальных вечароў процьму складаных для выканання і нялёгкіх для працяглага слухання рэчаў. Сярод іх Канцэрт для клавіра і камернага ансамбля М. дэ Фальі (саліст У. Дулаў), Квартэт для духавых Э. Віла-Лобаса, «Пастараль» Д. Мійё, «Рапсодыя» А. Анегера, іншая музыка для розных інструментальных складаў. І з усёй сваёй рознабаковасцю шчыраваў ансамбль у апошні дзень.

Апоўдні, праўда, выступалі вакалісты — у Круглай зале Палаца прафсаюзаў, шумнага ў гэты час, перапоўненага сваім жыццём, таму не магу назваць «хранатоп» канцэрта ўдалым. А «змесціва» было цудоўнае. Свае ўлюбёныя творы спявала Ю. Лейтайтэ — французскую вакальную лірыку (у тым ліку рэдкасны цыкл Ф. Пуленка на вершы П. Элюара «Праца мастака») і духоўныя арыі, напаўняючы іх прыцягальнаю сілай і спавядальнай шчырасцю. (Акампанаваў Я. Гініс). Складаную вобразную драматургію цыкла рамансаў Г. Гарэлавай на вершы П. Беранжэ «Хвала беднякам» ды «Музычныя сатыры» А. Друкта з артыстычным бляскам увасобіў В. Скарабагатаў у ансамблі з піяністкай Г. Каржанеўскай.

Праз пару гадзін фестываль прадоўжыўся ў зале коласаўскага тэатра, утульнай, асабліва падчас аншлагу. «Балетны дывертысмент» на музыку XVIII ст., сапраўдны дыямент са скарбонкі нядаўняга фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», стаўся святочнай падзеяй для Віцебска, які не мае (часова?) свайго музычнага тэатра, і радаснай сенсацыяй для многіх віцяблян, якія, мяркую па зіхоткіх вачах ды захопленых уздыхах суседзяўгледачоў, анічагусенькі не ведалі пра музычнае жыццё на беларускіх землях 200 гадоў таму. Давёў пра гэта ва ўступным слове В. Скорабагатаў. Потым былі ненадакучлівыя повязі гожых мелодый Э. Ванжуры, М. Радзівіла, І. Голанда, В. Казлоўскага ў строгім выкананні стыльна апранутых «прыдворных» музыкаў са сваім жартаўніком - капельмайстрам; з'яўляліся трапятлівыя постаці юных дансёраў у вытанчаным танцавальным малюнку.

А крыху пазней артысты развітваліся з віцяблянамі, зладзіўшы ў фае 2-га паверха канцэрт-капуснік. Музычны пачастунак («Класік-Авангард» адданы свайму імені!) складаўся з двух пластоў. Спачатку, застаўшыся ў чапурыстых уборах, музыканты разыгралі дасціпнае знаёмства з... ну, даволі кепскім італьянскім оперным аркестрам. Паважна-вальяжны «сеньёр» — В. Скорабагатаў чытаў фрагменты з сатырычнага трактата Б. Марчэлы «Модны тэатр», а скрыпкі, ды габой, ды фагот, ды іншыя, належным чынам, парадыйна ці ўсур'ёз (Вівальдзі! Казлоўскі!) ілюстравалі яго расказы і спевы. Мінуў антракт, і гледачы ўжо апынуліся ў атмасферы «трагедыі»: трапіў у шклянку таракан... Падцягнутыя, у акадэмічных строях, са строгімі тварамі выканаўцы то аздаблялі вершаваную гісторыю Алейнікава пра пакуты і сканнанне таракана авангарднай музыкай, то не саромеліся «злоснага хуліганства», калі чароўная піяністка Б. Штэйнбук «жарыла» на трох балалайкавых струнах, а ейны вытанчаны калега У. Дулаў спрытна намацваў кнопкі баяна і зухавата расцягваў мяхі. Чытальнік У. Варанкоў са смехатворнай непахіснай сур'ёзнасцю, з пранікнёна-бездакорнай дыкцыяй прамаўляў свой тэкст...

●

Хада фестывалю, з яго амаль балаганным канчаткам, была ў лад эстэтычным, філасофскім этычным пошукам выдатных іншадумцаў не толькі свайго часу, мастакоў, асветнікаў, парадаксалістаў, якіх лёс звёў з Віцебскам. Унікальны хранатоп!

Аднойчы на канцэрце хтось з педагогаў музвучылішча, сыплючы воплескамі «Класік-Авангарду», з неспадзяванай тугою выдыхнуў: «Так хацелася б з імі працаваць!..» Хіба можа быць шчадрэйшай хвала музыкантам — ад музыканта? Але тужлівая нотка выдае на тое, што нечага моцна бракуе тут, у Віцебску. Вось табе і «хранатоп»... Чаго ж?

Пэўна, рэгулярнага музычнага жыцця, наладжанага ўласнымі сіламі. Сваіх выканаўцаў, з якімі «хацелася б працаваць». На жаль, сёння я такіх не ведаю і міжволі гукаю: «Паслядоўнікі Байдава, наступнікі «з роду Салярцінскіх», духоўныя нашчадкі музычных традыцый Віцебска—дзе ж вы? Падайце голас...»

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота М. ШМЕРЛІНГА.



Галоўны рэдактар часопіса «Дыялог. Карнавал. Хранатоп» дацэнт Віцебскага педінстытута М ЦАНЬКОЎ з мастацтвазнаўцам А. КУЗНЯЦОВЫМ (часопіс «Наше наследие», Масква).



Дзяржаўны канцэртны аркестр Санкт-Пецярбурга. Дырыжор — Ю. НІКАНЕНКА.



Удзельнікі «Балетнага дывертысмента»: гадаванцы Беларускага харэаграфічнага вучылішча ды ансамбля «Класік-Авангард».

## КРЫНІЦА НАТХНЕННЯ

### Сёлета споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мастака С. ЮДОВІНА

**Саламон Юдовін даводзіўся пляменнікам аўтару знакамітай п'есы «Дыбук», буйнейшаму яўрэйскаму фальклярысту, драматургу і грамадскаму дзеячу С. Ан-скаму. Але першая іх сустрэча і знаёмства адбыліся ў майстэрні Ю. Пэна, дзе Юдовін вучыўся маляваць. Гэтае знаёмства ў многім вызначыла далейшы лёс Саламона Юдовіна. Ан-скі бярэ юнака, які меў навыкі фатаграфічнай работы, з сабой у этнаграфічныя экспедыцыі па Валыні, Падоллі, Кіеўскай губерні. Саламон замалёўвае і фатаграфуе творы народнай творчасці, убачаныя ім у дамах, сінагогах, на могілкавых помніках. У 1912—1914 гадах Юдовін удзельнічае яшчэ ў некалькіх гісторыка-этнаграфічных экспедыцыях па Віцебшчыне. Ён бывае ў яўрэйскіх мястэчках «штэтлах», у сябе на радзіме — у Бешанковічах, на радзіме Ан-скага — у Чашніках. Мастак робіць вялікую колькасць малюнкаў алоўкам. У адрозненне ад тых мастакоў, якія бачылі ў народным мастацтве толькі «прымітывізм формы», яе іерагліфічнасць, Юдовін праз вывучэнне дакументаў імкнецца зразумець псіхалогію народа, асаблівасці яго жыцця.**

**Адным з вынікаў экспедыцый стаў альбом «Яўрэйскі народны арнамент», які ўбачыў свет у 1920 годзе ў Віцебску. Яго аўтарамі сталі С. Юдовін і М. Малкін.**

**У пасляслоўі да альбома С. Юдовін спрабуе растлумачыць чаму яўрэйская культура і, у прыватнасці, выяўленчае мастацтва надаюць такое вялікае значэнне арнаменту. Ён піша: «Гістарычна складзеныя формы яўрэйскага мастацтва розняцца ад іншых народаў. Яўрэйскае мастацтва павінна было быць дэкаратыўным. Рэлігія дазваляла ўпрыгожваць, але не дазваляла ілюстраваць падзеі. Малюнкі ў сінагогах, на помніках — чыста дэкаратыўныя. Яны служаць для ўпрыгожвання. Яўрэйская мастацкая школа часам не ставіла іншых задач перад мастакамі...**

**Не маючы магчымасці маляваць людзей, мастак уносіў чалавечыя рысы ў малюнкі жывёл, птушак. Яны рабіліся сімваламі яўрэйскага жыцця. Усё мела значэнне: месца, дзе яны стаяць, іх чыста чалавечыя рухі».**

**Альбом, які зараз стаў бібліяграфічнай рэдкасцю, быў выдадзены на кепскай паперы. зусім дрэнным друкам. Але ўспомнім, ішоў 20-ы год... І ўсё ж кніга ўбачыла свет. «Наша задача паказаць, якое багатае мастацтва створана народам,— пішуць выдаўцы.— Таму што, калі мы цяпер не збіраем нашы народныя творы, то мы ў кароткі час страцім іх увогуле». Гэта было сказана больш за семдзесят гадоў назад, калі яўрэйскае жыццё ў мястэчках рысы аседласці яшчэ цякло, як паўнаводная рака. Горкія, прарочыя словы!**

**І, вядома, неабходна сказаць пра чалавека, дзякуючы падзвіжніцкай дзейнасці якога быў выдадзены гэты альбом,— пра яго складальніка Ермахіла Радзінсона. У 1918 годзе ў 26 гадоў Радзінсон стварыў Віцебскае літаратурнае яўрэйскае таварыства. Яно не мела ніякай падтрымкі ні з боку яўрэйскай інтэлігенцыі, ні з боку партыйных работнікаў, якія «будавалі новае жыццё». Радзінсон у адзіным ліку замяняў усіх: аднавіў адзіную ў горадзе яўрэйскую бібліятэку, арганізаваў кніжны кіёск, праводзіў выстаўкі, лекцыі. Памёр Радзінсон вельмі маладым, у 28 гадоў. Апошняй яго работай было выданне альбома «Яўрэйскі народны арнамент».**

**Гэтыя работы не толькі арганічна ўвайшлі ў творчасць Саламона Юдовіна. Яны сталі як бы падмуркам, на якім у далейшым будаваўся ўвесь творчы працэс. Гэта бачна ў гравюрах розных гадоў: у цыклах «Былое», «Стары Віцебск», у ілюстрацыях да кніг Мендэле Мойхер-Сфорыма «Падарожжа Веніяміна III», Л. Фейхтвангера «Яўрэй Зюс», у многіх іншых работах.**

**Аркадзь ШУЛЬМАН.**

